


№ 5. ВЕРАСЕНЬ 1937 г.

## СЬВЯЦЕЙШЫ ПАТРЫАРХ СЭРБСКІ ВАРНАВА.

25 ліпеня г. г. памёр Яго Сьвяцейшаства, Сьвяцейшы Варнава, Патрыарх Сэрбскі.

Сэрбы — славяне. Сэрбская Праваслаўная Царква ў цяперашней Югаславіі вядзе свой пачатак ад IX стагодзьдзя Пашырэньню праваслаўнае веры сярод сэрбаў, як амаль адначасна і сярод беларусаў, асабліва спрыяў зроблены сьв. братамі Кірылам і Мяфодам пераклад кніг Сьв. Пісаньня і Праваслаўнага Багаслужэньня на жывую славянскую мову (гл. „Снапок“ № 3). Цяжкі быў лёс Сэрбскае Прав Царквы, асабліва пад панаваньнем турак. Аднак яна перамагла ўсе перашкоды для свайго існаваньня і цяпер памысна разьвіваецца, асабліва з узнаўленьнем патрыархату ў 1920 г. Пасьля Вялікае вайны 1914 — 1918 г.г., калі да Сэрбіі былі далучаны Чарнагорыя, Боснія і Гэрцагавіна, Сэрбская Царква налічвае 6 ½ міліёнаў верных.



Памёршы Патрыарх Варнава карыстаўся нязвычайнаю пашанаю і любоўю свайго народу.

## МАЛІТВА.

Часамі хмары сінія
пагасяць дня зару:
адну малітву дзіўную
тады я гавару.

Ёсьць музыка гаючая
у сказах слоў жывых,
і дыхае магутная
сьвятая сіла ў іх.

І горкі сум разьвеецца,
як пыл сівы з дарог,
і плачаш ты, і верыцца,
і лёгка у грудзёх.

Пераклад з **Лермантава.**

## КАЗКА ПРА МЯДЗЬВЕДЗЯ.



Пад шэрую восень, над верасень месяц
Задумаў жаніцца мядзьведзь ў цёмным лесе.
І кажа сватом:—мне шукайце пасагу,—
Зіму зімаваць—трэба мёду і брагі,
А у мяне ні каня ні гароду,
Падушка і тая з альховай калоды.
За лета снапа мне нажаць не прыйшлося,
То пчол даглядаў, то гнуў дугі, палозьзя.
Няхай сабе будзе няважная жонка,
Каб толькі я выжыў зіму пад сасонкай...
Хадзілі сваты ад мядзьведзя па лесе,
Усё дзеўкі шукалі праз верасень месяц.
Хадзілі яны ў Белавеж да Зубрыхі,
Да Зайцавых дзевак, былі у Казьліхі.
Там ветліва важных гасьцей прынімалі,
Крынічнай вадой, мурагом частавалі,
Стараліся ўсе ім у пояс хыліцца,

Сваты былі важныя Воўк ды Лісіца.
Калі што ня так, дык патрапілі-б самі
Пагладзіць дзе трэба, памацаць зубамі...




Ды важныя дзеўкі былі-б гаспадыні,
Каб мелі каўбасаў, курэй, саланіны.
Пашто і шукаць бы што недзе другое,
Было-б для Мядзьведзя жыцьцё залатое.
А то у Зайчыхі: пасаг—руні жыта,
Зімой зледзянеўшая ў полі ракіта.
У Казьліхі—зялёны дзядзеўнік ў імшарах,
Падушкі з дзяразы, асоту гушчары;
А у Зубрыхі па ўсёй Белавежы
Ня зьлічыш стагоў непачатых і сьвежых...
Ды што з іх сватом і Мядзьведзю сівому, —
Язык намазоліш, нагоніш аскому...
Пачулі сваты, што над Нараччу дзеўка,
Ёсьць ў лесе сасновым паджарая Белка,
Такая вясёлая з песьнямі, сьмехам,
Зьбірае з ляшчэўніку толькі гарэхі:
Насыпала поўныя куфры, як лёду, —
Раскусіш—як сонца, зярняты як з мёду.
Сказалі Мядзьведзю:—Ёсьць дзеўка з пасагам...
Прыбраўся Кудлаты у лапці, ў сярмягу;
Кашулю узяў, што злупіў у Міколы,
Як той бараніў ад яго калісь пчолы;
Узяў пояс лазовы і кій сукаваты, —
Так выбраўся з сьвітай Мядзьведзь наш у сваты...
Такое вясельле магло толькі хіба
Быць там, дзе ёсьць Нарач, бор цёмны ды рыба.
У цымбалы ігралі шаршні і асвянкі
Ігралі дзень цэлы да самай заранкі.
А ў чорным ягодніку з цяцярукамі
Ў тахт дзятлы у бубны лупілі насамі,
І там за платамі дзе жытнія гоні,



Пятух памагаў на чырвонай гармоні.
Лявоніху ёмка скакала Лісіца,
Бы ветрам, бы жоўтым шумела спадніца,
Аж выйшаў Мядзьведзь, топнуў левай ды правай,
Пайшоў прысядаць — замігцелі рукавы.
Скакаць бы ён мог так дзён пяць, ці мо' дзесяць,
Адно толькі лапці знасіліся ў лесе:
Ды і ў мяне растапталіся лапці...
На трэцюю ноч пачалі разьяжджацца.
Памалу прайшоў ціхі верасень месяц.
Ляжыць, пажывае Мядзьведзь ў цёмным лесе,
Ў гушчарах, дзе глуш ды сасновае рэха,
А Белачка носіць ваду ды гарэхі.
Насыплець Мядзьведзь іх у ступу, як лёду,
А зверху, як бухне дубовай калодай...
Наесцца ды сьпіць ў лагаўі, як ў палацы,
Нат слухаць ня хоча, хто кажа аб працы.
Пражыў гэнэралам ня мала так часу,
Пакуль не хапіла у Белкі прыпасаў.
Ляжыць і раве ён, ледзь бор не аглохне:
— Ой, мусіць я хутка памру, або здохну...
Лячыла Мядзьведзя Варона-шаптуха,
І Дзяцел стучаў яму трубачкай ў вуха,
І банькі на пяты стаўляла Сарока,
Кампрэсы яму прыкладалі пад бокам...
Ды што не рабілі—ўсё не памагала.
Шмат вылізаў лекаў—гусіны і сала...
Ды што тыя лекі, калі наш кудлаты
Зьеў двух дахтароў з Белавежы лычатых.
Хадзіў тады блізка, Цыган хітры недзе, —
Прачуў пра цяжкую хваробу Мядзьведзя,
І кажа: — «Ты, бацю, ня слухай нікога,
Цыган табе зельля парадзіць другога.
Відаць косьці колець, ня можаш ты сесьці,
Ня можаш ты мала, мой баценька, есьці...»
Ёсьць ў лесе дарога, а збоку паляна, —
Лячыў цыган брагай сівухай да рана.
Яшчэ паіў зельлем салодкім, як мёдам,
Спаіўшы Мядзьведзя, прыкуў да калоды,
А посьле усыпаў бярозавай кашы,
Павёў яго цешыць людзей па кірмашах.
Перш доўга Мядзьведзь касюрыўся ды охаў,
А посьле зрабіўся такім скамарохам,
Дзе толькі ня прыйдзе пад хаты крывыя, —





Зьлятаюцца дзеці, дзяўчаты, старыя,
Прыносяць салодкага мёду, гарэхаў,
А ён давядзе аж да сьлёз і да сьмеху.
Сьмяюцца і дзеці, і куры, і коні,
Як ён у шарахаўкі звонкія звоніць;
Сьмяюцца асьверы і стрэхі і хаты,
Як пойдзе скакаць пад цымбалы кудлаты.
Здаецца няпраўда, што людзі гавораць,
Што быў ён жанатым, што быў калісь хворым...
А Белачка там, дзе ёсьць пушча густая,
У сасновыя куфры гарэхі зьбірае,
Ды добра хавае, каб часам мядзьведзі,
Каб іх не знайшлі на'т вясковыя дзеці.
Паджарыя вушкі наставіць—ўсё чуе —
І чорнымі зорка вачыма пільнуе.
А там, за сасновым за лесам, за борам,
Ах, золатам сінім іграюць вазёры.
А далей ўсё наша Зямелька-Краіна,
Дзе ступішь, то песьня, то казка, быліна...
І сумных нямала, нямала... бяз ліку...
Але мы іх лепей пакінем вялікім...
А вам, мае братцы, з вачыма, як золак,
Аддам усе дзівы тых казак вясёлых.

4.VIII. 1937 г. **Максім Танк.**

## НАРОДНАЯ ПЕСЬНЯ.

А ў нас сягоньня вайна была,
Мы поле зваявалі,
Жыта дажалі,
Зьмялі поле мяцёлкаю,
Ідзём дамоў з вясёлкаю.
Засьцілайце сталы, лавы —
Едзе госьцік нябывалы;
Адчыняйце шчытовы вароты —
Ідуць жнейкі з работы.

З цыклю „**Жніўныя песьні**".

## ЛІСТ БЛЫХІ.

Дарагія Дзеткі!

Пабачыла я „Снапок" ў гэтага Халюка, каторы ў часе пасты каровак чытаў яго Юсьці і Альжусі, седзячы пад вялікім снапом жыта, вось зусім як на вокладцы.

Чула я шмат вершаў і прыгожых расказаў з гэтага часапісу, і надта мне ён спадабаўся. Дык і захацелася мне напісаць у „Снапок" аб сваім жыцьці.

Я ўжо старая блыха—маю каля двух месяцаў, а гэта, як на блыху, паважны век. Нарадзілася я ў беднай вясковай хаце. Ня знаю сваіх бацькоў, бо маці злажыла 12 яечак пад парогам хаты, дзе шмат было бруду і пылу, дый пакінула нас свайму лёсу. Ляжала я разам з сваімі сёстрамі і братамі нейкіх 6 дзён, аж пасьля выклюліся мы з гэтых яечак і распаўзьліся ў розныя брудныя куткі. Была я тады падобная не да блыхі, але да нейкага тонкага белага чарвячка з вусікамі, скіўцамі і без вачэй. На канцы майго цела былі два большыя валаскі, а па бакох шмат маленькіх. Гэтыя валаскі памагалі мне поўзаць, і дзякуючы ім я магла хадзіць даволі хутка. Кармілася я тады пылам, якога ў хаце было шмат.

І гэтак жыла я каля 11 дзён. Пасьля адпала мне неяк ахвота да яды і захацелася супакою. Выкапала я сабе маленькую ямачку ў пыле і лягла тамака. Ня ведаю добра, што са мною тады рабілася. Чула толькі, што спаўзла мая скурка, а я зрабілася нейкая куцая і не магла ўжо больш поўзаць. Ляжала я ў такім стане каля 10 дзён.

Аднаго дня пачула нейкую дзіўную сілу ў сабе. Пачала

вырушыцца і ўрэшце вылезла з ямачкі. Але тут пачалася дзіўная для мяне перамена. Ня была я ўжо падобная да чарвячка, але да сапраўднай блыхі. Мела сапраўдныя ногі, а не валаскі. Ня было ўжо ў мяне скіўіц, каб грызьці пыл, але нейкі сысуча — колючы хабаток. І што яшчэ? Мела я вочы! Маленькія, але прыгожыя. Зрабілася мне вельмі весела, і з радасьці сагнула я заднія ножкі, а пасьля як выпраставала іх, дык выскачыла ў паветра і аказалася шмат далей ад папярэдняга мейсца.

Але тут новая бяда. Захацелася мне есьці. Пылу было ў хаце шмат, але я ня мела ўжо скіўіц, а пры помачы свайго хабатка не магла ніяк яго есьці. Аж тут увайшоў нехта ў хату (гэта была гаспадыня, добрая для нас, блох, жанчына, бо ня зусім любіла чыстату, а бруд мы любім). Я спачатку вельмі спужалася і пачала, як дурнап'яну наеўшыся, скакаць. Я так збянтэжылася, што нават скокнула ёй на ногу... І вось дзіва! Я зара супакоілася, бо пачула кроў, кроў чалавека. Я сама ня ведаю, як гэта было, але неяк пракалола я сваім хабатком скуру на назе ў гаспадыні дый пачала ссаць кроў. Мне зрабілася надта прыемна; пассаўшы, не адчувала я ўжо голаду. Ад таго часу я пазнала, што нам, дарослым блыхом, прызначана карміцца сьвежаю кроўю.

І гэтак пачалося маё жыцьцё дарослай блыхі. Скокну каму на нагу ці за каўнер і ссу кроў. Як пачуе гэта чалавек, пачне мяне ганяць сваімі грубымі пальцамі, а я скок! і ўжо далёка ад папярэдняга мейсца. Пасьля мяне застаецца толькі чырвоная плямачка. А найбольш я люблю неахайных людзей, якія баяцца мыла й вады і сьмярдзяць потам.

Ну, але трэба мне канчаць мой ліст, бо надта ўжо есьці захацелася. Можа калі-небудзь напішу яшчэ да Вас.

Скочка Блыхоўская.
З блысінай мовы на чалавечую пераклаў

25.VII.1937. **Мікалай Караленка.**

## МУХА І ВОЛ

(байка).

З павуціны муха ўцячы не магла:
„Ратуй, браце, мяне“! — яна просіць вала.
Рогам вол у павуцьцё даў — муха паляцела...
У вала на хрыбце смактаць кроў яна села...

**Я. Быліна.**

# САБАКА І ТЭЛЕФОН.

У Даніі да аднаго абшарніка нядаўна прыехаў у госьці з Копэнгагэна (сталіца) афіцэр з сваім сабакам Каро. Папаўшы на вёску—мо' першы раз у жыцьці — Каро быў вельмі захоплены і цэлымі днямі ганяўся па палёх.

Але вось раптам афіцэра выклікалі па тэлеграме ў Копэнгагэн. Каро ня было дома. Ён вярнуўся толькі праз некалькі гадзін, як афіцэр паехаў. Абшарнік на ўсе лады даваў Каро да зразуменьня, каб той бег за сваім гаспадаром. Аднак Каро нічога ня слухаў і калі яго проста праганялі, зноў варочаўся ў маёнтак, мусіць хочучы дачакацца тут свайго гаспадара.

Тады абшарніку прыйшла думка выклікаць афіцэра па тэлефону, хай сам пакліча Каро. Сказаў — зрабіў. Каро пад вялі да тэлефону і падставілі да яго вуха тэлефонную трубку.

— Каро! Да хаты!—крыкнуў афіцэр у мікрафон.

Разумны сабака пачуў голас свайго гаспадара. Радасна загаўкаўшы, ён стралою выляцеў з пакою і пабег у кірунку Копэнгагэна. Праз дзьве гадзіны ён быў дома, зрабіўшы каля 40 кіляметраў дарогі.

### Жарты.

Матка вучыць сына:

— Янечка, вырабі сабе такую прывычку: ніколі не адкладаць назаўтра таго, што можаш зрабіць сягоньня.

— Добра, мамачка, тады дай мне зараз тыя пернікі, што засталіся, і я іх яшчэ сягоньня зьем.

II.

— Чаго равеш?

— Бо я ўчора пабіў галоўку.

— Чаму - ж ты ўчора ня плакаў?

— Бо ўчора нікога дома ня было.

### Прыказкі.

За перабірачку дае Бог гарачку. — Свая маці наб'е і пашкадуе. — Малыя дзеткі — малыя и бедкі, падрастуць дзеткі — падрастуць і бедкі. — Пусты колас дагары тырчыць.

---

**„СНЯПОК“ — царкоўны і культурна - асьветны журнал для дзяцей, з ілюстрацыямі.**

**на год 1 зл., на ½ года 50 гр. з перасылкай.**

**Цана асобнага нумару 10 гр. з перасылкай.**

Падпіска прыймаецца ў рэдакцыі „Слова“:
**Warszawa 4, Paryska 27.**

У справах рэдакцыйнага характару зварочвацца да гр. Сяргея Паўловіча па адрасу: **Вільня, вул. Папоўская, д. 9, кв. 4.** На адказ далучаць значкі паштовыя. На адрас гр. Сяргея Паўловіча прысылаць усе карэспандэнцыі і іншыя матар'ялы.

---

Warszawa. Drukarnia Synodalna. Paryska 27.